АХОВА ЗДАРОЎЯ

# Беларускіх дзяцей могуць пакінуць без радыяцыйнай абароны

Марат ГАРАВЫ

**Па віне міністэрства аховы здароўя беларускія дзеці могуць застацца без радыяцыйнай абароны, што выкліча катастрафічнае пагаршэнне здароўя падрастаючага пакалення. Пра гэта ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН заявіў дырэктар Інстытута радыяцыйнай бяспекі «Белрад», член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар тэхнічных навук, прафесар Васіль Несцярэнка.**

Ён назваў «непаўнавартымі» нормы радыяцыйнай бяспекі Беларусі на 2000 год, падрыхтаваныя і прынятыя міністэрствам аховы здароўя. Паводле словаў прафесара, у гэтыя нормы не ўключаная дозавая мяжа для дзяцей — 0,3 мілізіверта ў год, — з якога маркуецца ўмяшанне спецыялістаў па радыяцыйнай абароне дзяцей.

Акрамя таго, адзначыў Несцярэнка, у Беларусі дзейнічае «архаічны і недакладны» Каталог дозавых нагрузак насельніцтва 1992 года. У 1998—1999 гадах міністэрства аховы здароўя прапанавала два новыя праекты Каталога, аднак пры іх практычнай праверцы спецыялісты інстытута ўстанавілі заніжэнне фактычных дозавых нагрузак у 3—8 разоў. Прафесар тлумачыць гэта прымяненнем памылковай методыкі разлікаў гадавых дозаў апраменьвання па абмежаваным адборы пробаў прадуктаў харчавання. Прычым, паводле словаў вучонага, у першы праект Каталога былі ўключаныя толькі 128 з 3 тысяч 668 вёсак, якія пацярпелі ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы, у другі — 850. У выніку абодва праекты былі адхіленыя вучонымі і дагэтуль у краіне дзейнічае стары Каталог.

У 1999 годзе інстытут «Белрад» таксама даў адмоўнае заключэнне на прапанаваемыя чыноўнікамі новыя Рэспубліканскія допушчальныя ўзроўні ўтрымання цэзію-137, згодна з якімі нормы радыенуклідаў у мясе і малацэ ў 2—3 разы перавышалі расійскія паказчыкі.

Несцярэнка адзначыў дзейнасць прафесара Юрыя Бандажэўскага — былога рэктара Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, які цяпер знаходзіцца пад следствам па падазрэнні ў хабарніцтве. Бандажэўскі зрабіў важны вывад аб тым, што пры ўзроўні назапашвання цэзію-137 у 50 бекерэляў на 1 кілаграм у дзіцячым арганізме наступае паталогія жыццёва важных органаў і сістэмаў.

З дапамогай лічыльнікаў выпраменьвання чалавека (ЛВЧ) супрацоўнікі інстытута «Белрад» праводзяць вымярэнні па накапленні радыенуклідаў у арганізме дзяцей, і апошнія працы прафесара Бандажэўскага гавораць пра прамую залежнасць дзіцячых захворванняў ад узроўню радыяцыйнага паражэння. Васіль Несцярэнка падкрэсліў, што вымярэнні з дапамогай ЛВЧ інстытут праводзіць на падставе ліцэнзіі міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі, аднак міністэрства аховы здароўя адносіць гэтыя даследаванні да галіны медыцынскай дзейнасці і патрабуе ад «Белрада» атрымаць другую ліцэнзію на выкарыстанне ЛВЧ альбо спыніць радыяцыйны маніторынг.


Фота IREX/ProMedia

У дадзенай сітуацыі прафесар Несцярэнка быў вымушаны звярнуцца да кіраўніцтва Беларусі і міжнароднай грамадскасці з просьбай не дапусціць закрыцця ў інстытуце работ з выкарыстаннем ЛВЧ. Гэта, паводле словаў вучонага, прывядзе да згортвання дзейнасці незалежных спецыялістаў па абароне здароўя дзяцей ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

**Даведка БелаПАН.** Інстытут «Белрад», заснавальнікамі якога выступілі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Беларускі фонд міру, утвораны ў кастрычніку 1990 года пры падтрымцы вядомага праваабаронца Андрэя Сахарава, пісьменніка Алеся Адамовіча і шахматыста Анатоля Карпава. Інстытут стварыў 370 цэнтраў радыяцыйнага кантролю прадуктаў харчавання, размешчаных на тэрыторыі Беларусі. ■

БелаПАН

# «Буду думаць да верасня»

**Блізкія выбары ў палату прадстаўнікоў падзялілі грамадства на тых, хто ўхваляе гэтую кампанію, і тых, хто яе не прымае. Адзінага падыходу няма нават у аб'яднанай апазіцыі. Кожны мае свае аргументы. Сёння сваю пазіцыю адносна выбараў у інтэрв'ю карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ выкладае старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікола Статкевіч.**


Фота Ул. ШЛАПАКА

***— Спадар Мікола! Адна групоўка БСДП выступае супраць нават самага нязначнага ўдзелу ў выбарчай кампаніі, другая на чале з Вамі лічыць немэтазгодным забараняць сябрам партыі балатавацца ў дэпутаты. Якія аргументы Вы прыводзіце ў падтрымку сваёй пазіцыі?***

— Існуюць дзве пазіцыі: за актыўны байкот выбараў і за немэтазгоднасць байкоту. Калі байкот не прымаецца — трэба прапаноўваць нешта іншае. Таму трэба хацяб прымусіць улады ісці на фальсіфікацыі і скарыстаць выбарчую кампанію ў сваіх мэтах. Нават невялікая колькасць дэпутатаў гэтай палаты, якая будзе патрабаваць паўнамоцтваў, падымаць пытанні парушэння правоў чалавека, — гэта будзе хоць нейкі зрух.

Ідэя байкоту знайшла падтрымку ў лічаных сябраў Цэнтральнага камітэта партыі. Я калісьці паспрабаваў паставіць гэтую прапанову на галасаванне, дык ЦК адмовіўся нават галасаваць. Справа ў тым, што, калі мы аб'яўляем байкот, то мы павінны яго выйграваць.

Чаму немагчыма выйграць байкот? Першае. Людзі прагнуць пераменаў. Расце колькасць жадаючых пайсці на выбары — такога даўно не было. Ціхае павышэнне цэнаў на малочныя прадукты ў ліпені выклікала рост жадаючых пайсці галасаваць адразу на 10%. Расце пратэстны электарат, расце колькасць жадаючых галасаваць за незалежных кандыдатаў, падае колькасць тых, хто жадае галасаваць за кандыдатаў ад Лукашэнкі. Электарат апазіцыі застаецца нязменным – фактар надзвычай сумны, толькі 6% выбаршчыкаў гатовыя галасаваць за аб'яднаную апазіцыю. Да ўсяго астатняга, на адну ўлётку з заклікам не ісці на выбары будуць клясціся 10 улётак незалежных кандыдатаў з заклікам прагаласаваць за яго, самага лепшага. Нарэшце – гэта адміністрацыйныя рэсурсы ўлады. Афіцыйна ў нас толькі 47 акругаў гарадскіх, а 63 акругі ўключаюць у сябе – абавязкова – вясковыя раёны. Калі гаворыць, што ў 22 буйнейшых гарадах можна сарваць выбары, — гэта няпраўда: у нас толькі 16 чыста гарадскіх акругаў. У астатніх акругах выбаршчыкаў прыкладна палова гарадскіх і столькі ж – вясковых. А там ужо нагоняць лічбы і кампенсуюць любую няўдачу ў горадзе.

***— Чым Вы аргументуеце ўдзел сябраў партыі ў выбарах?***

— Думаю, што ў агульнанацыянальным маштабе партыі не могуць удзельнічаць у выбарах, бо сваім удзелам яны як бы заяўляюць, што выбары маюць шанец быць сумленнымі. Аднак гэтую кампанію нельга ігнараваць. Таму і абраны варыянт — даць магчымасць сябрам удзельнічаць самастойна – гэта не ўдзел партыі, і ён не вядзе да легітымізацыі палаты. Апроч таго, удзел незалежных кандыдатаў прымусіць улады пайсці на фальсіфікацыі, і гэта стане яшчэ адным доказам несумленнасці выбараў. Нашая пазіцыя знайшла падтрымку на міжнароднай арэне: ужо была заява намесніка міністра замежных справаў Вялікабрытаніі, вітаў такі падыход кіраўнік дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Тэры Дэвіс, — гэта не вядзе да легітымізацыі рэжыму, а наадварот, дазваляе сабраць найбольш доказаў яго нелегітымнасці.

***— Тым не менш, шэраг апазіцыйных палітычных партыяў адмовіліся наогул ад удзелу ў выбарах. Рашэнне вашай партыі не перашкаджаць сваім сябрам балатавацца, нявызначанасць пазіцыі ПКБ, — ці не вядзе гэта да расколу ў стане аб'яднанай апазіцыі?***

— Сваімі заявамі аб поўным няўдзеле яны як бы ствараюць новае палітычнае поле ў нанова абранай палаце прадстаўнікоў. Мы не можам абыякава назіраць, хто зойме гэтае поле: ЛДП ці беларускі «Яблык», ці хто-небудзь іншы. Мы ўсё ж хацелі б, каб беларуская апазіцыя заставалася патрыятычнай.

***— Даўно ходзяць размовы пра тое, што Вы асабіста будзеце балатавацца ў дэпутаты палаты прадстаўнікоў. Ваш верагодны ўдзел у кампаніі тлумачаць тым, што набыццё дэпутацкага імунітэту дазволіць пазбегнуць Вам далейшага палітычнага праследу.***

— У гэтым ёсць доля рацыі. Не ў тым, што я збіраюся вылучацца. У мяне ёсць цэлы пачак зваротаў ад рэгіянальных структураў з просьбай, з заклікам да мяне пайсці на гэты крок. Для мяне гэта вельмі складаная сітуацыя, бо я разумею: улады зробяць усё магчымае, каб мяне не прапусціць. Я не здолею прыняць канчатковае рашэнне раней, чым у верасні – ужо надта складаны выбар. З аднаго боку, мне вельмі не хацелася б, каб старшыню партыі прынізілі, а з другога боку, шкада неяк кінуць адных людзей, якія пойдуць на выбары і будуць рызыкаваць. Я не баюся крымінальнага праследу, і гэта не прычына для мяне, хаця і маральная падстава. ■

Гутарыў Рыгор БУЯН

# «Поступление гуманитарной помощи...»

**НАША СВАБОДА 13 июня 2000 года опубликовала статью Р.Яковлевского «В Беларуси исчезает гуманитарная помощь». Редакция получила опровержение на этот материал из Департамента по гуманитарной деятельности при президенте Республики Беларусь, подписанную директором Департамента В.Кучинским, которое предлагается вниманию читателей.**

Анализ информации, поступающей с июля 1997 г. в Департамент по гуманитарной деятельности, показал, что поступление гуманитарной помощи в Республику Беларусь не уменьшилось.

Напротив, если в 1998 году поступило 1.655 гуманитарных грузов стоимостью 33,5 млн. долларов США, то в 1999 г. отмечается увеличение количества на 22%: поступило 1.842 гуманитарных груза стоимостью 41,1 млн. долл. США. Гуманитарная помощь в Республику Беларусь в 1999 году поступала из 28 стран. Наибольший вклад по оказанию гуманитарной помощи внесла Федеративная Республика Германия – в 1999 г – 936 грузов стоимостью 20,3 млн. долл. США, или 49,4% от общего поступления (в 1998 году – на 18,7 млн. долл. США). Второе место занимают Соединенные Штаты Америки, откуда поступило 117 грузов стоимостью 11,8 млн. долл. США (в 1998 году – 7,0 млн. долл. США), на третьем месте Швейцария – 1,0 млн. долл. США (в 1998 году – на 0,96 млн. долл. США), Канада – 0,8 млн. долл. США (в 1998 году – на 0,2 млн. долл. США).

Только в 2000 году за 5 месяцев из Германии поступило 478 грузов (в 1999 г. – 369 грузов).

Что касается оздоровления детей за рубежом, то в 1999 году прошло оздоровление в Германии свыше 10 тыс. детей (на втором месте после Италии – 24.339), что по сравнению с 1998 годом на 1.700 детей больше. За 10 лет укрепили здоровье в Германии 78,6 тыс. детей или 21,5% от общего количества.

В целях развития достигнутого уровня двухстороннего белорусско-германского сотрудничества в области минимизации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС, министерством иностранных дел совместно с Департаментом по гуманитарной деятельности 19 мая с.г. была организована встреча руководителей наиболее активных благотворительных организаций ФРГ с президентом Республики Беларусь А.Г.Лукашенко.

В состав делегации из ФРГ входили представители 30 благотворительных, государственных структур (МИД, Федеральное министерство экономики, аппарат правительства земли Северный Рейн-Вестфалия), корреспонденты радио и телевидения.

В рамках визита немецкая делегация посетила оздоровительный центр «Надежда-XXI век» в Вилейке, детский реабилитационно-оздоровительный центр «Ждановичи», приняла участие в «круглом столе» по вопросам оказания нашей стране гуманитарной помощи и итоговой пресс-конференции.

В целом представители благотворительных организаций ФРГ удовлетворены состоянием сотрудничества с белорусской стороной и намерены продолжать свои гуманитарные акции по оказанию помощи Беларуси, что и было отмечено в итоговом документе встречи. В ходе визита некоторые из них заявили о реализации в Беларуси новых проектов, в частности:

– проект создания Центра ранней диагностики заболеваний в Гомеле: общество «Помощь детям Чернобыля» (г.Хертен) и общество «Помощь людям в беде» (Ганновер);

– проект строительства санатория для больных раком детей в Острошицком городке: фонд «Солнце детям Чернобыля» (г.Майн);

– проект создания аптеки для адресной поставки медикаментов гражданам Беларуси – бывшим узникам концлагерей: союз «Помощь Гомелю» (г.Поинг).

Хотелось бы отметить, что в ходе визита ни один из делегатов с немецкой стороны не предъявил претензий, изложенных в статье от 13 июня с.г.

Безусловно, проблемы есть. Механизм доставки и распределения гуманитарной помощи, поступающей из-за рубежа, нуждается в совершенствовании. В этой связи участниками встречи с президентом были представлены предложения, которые в настоящее время переданы в Государственный таможенный комитет, Государственный комитет погранвойск, министерство здравоохранения, министерство образования на рассмотрение и подготовку конкретных мероприятий по совершенствованию существующего порядка доставки и распределения гуманитарной помощи и решению имеющихся проблем.

Таким образом, вызывают сочувствие попытки некоторых «политиканов» использовать гуманитарную деятельность для удовлетворения своих амбиций.

В заключение хочется еще раз поблагодарить весь немецкий народ и, в частности, его представителя – Посла ФРГ доктора Хорста Винкельмана, за понимание и бескорыстное отношение к нашим проблемам и бедам. ■

КОММЕНТАРИЙ АВТОРА ПУБЛИКАЦИИ

# «Опровержение» без опровержений

Директор Департамента по гуманитарной деятельности (он же президентский помощник по особым поручениям) решил опровергнуть информацию, опубликованную в моем материале (НАША СВАБОДА, 13 июня). Видимо, надеясь, что не все читатели помнят подробности статьи, высокопоставленный чиновник представил отчет в некоторых цифрах. Что в общем-то отрадно. Но по сути изложенного в статье, с конкретной ссылкой на мнения, высказанными автору статьи гражданами ФРГ, в «Опровержении» так ничего и не сказано. В статье говорилось, что нередко гуманитарные грузы попросту исчезают со складов (предположительно, расхищаются). Относительно того, что «в ходе визита ни один из делегатов с немецкой стороны не предъявил претензий», следует сказать, что упоминавшиеся в статье немецкие благотворители и не могли их предъявить. Одной из причин, из-за которой они собрали пресс-конференцию в белорусском благотворительном фонде «Дзецям Чарнобыля», как раз была та, что их устроители упомянутой встречи попросту проигнорировали. Несколько слов об оздоровлении белорусских детей. У зарубежных благотворителей, о чем упоминалось в статье, имеется информация, что зачастую детей для поездок власти отбирают по принципу политической благонадежности их родителей. В полученном «Опровержении» ничего не сказано и о том, состоялась ли другая встреча в посольстве РБ в Берлине, которое возмущенные немцы из Нижней Саксонии решили посетить. Чтобы поговорить «по душам» с послом Владимиром Скворцовым, который старательно произвел отбор благотворителей и журналистов из ФРГ, допущенных к главе белорусского государства. Соответствующая информация из Германии ожидается и будет опубликована.

Крайняя неудовлетворенность деятельностью департамента и вынудила добрых людей из Нижней Саксонии призвать своих соотечественников к бойкоту сотрудничества с госструктурами Беларуси и не присылать до лучших времен гуманитарные автокараваны. ■

С признательностью за оказанное внимание
Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

